# Уражаньні з „культурнай крытыкі“.

Праўдзівы і глыбокі талент найчасьцей спатыкае і заслужана прыхільную ацэну, адначасна і злосную варожасьць.

„Шчасьце“ такога спатканьня „ўлыбнулася“ і Максіму Танку з першых ягоных шагоў на літаратурнай арэне. З аднаго боку творы яго друкуюцца ў беларускіх часапісах, як „Наша Воля“, „Маладая Беларусь“, „Летапіс“, „Калосьсе“, „Шлях Моладзі“ і ад „вечара поэзіі“ адразу займаюць сталае мейсца ў беларускай літэратуры, — з другога—адначасна пачынаецца тырканьне пальцамі „не-старых“ і іншых крытыкаў у бок маладога поэта з алярмам да „палітычнага пагатовя“: Вазьмі яго!

Апошняе ў гэтым кірунку выступленьне зрабіў „Шлях Моладзі“ (№ 6—36 г.) за стацьцю Танка „Досыць бездарожжа“, напісаную з прычыны выхаду ў сьвет другой часткі „Падарожжа“ М. Машары.

Нас зусім ня цікавіць „казаньне“ „Шляху Моладзі“ аб „злосьці, зайздрасьці, ды някультурнасьці“ Танка. Вострыя, маладыя разважаньні над балючымі пытаньнямі сучаснасьці яшчэ не азначаюць, што малады поэт хварэе на такія хваробы, як „зайздрасьць“ або „вывышэньне“ сябе, таксама, як нічога культурнага ня маюць у сабе і старэчая злосьць „Маладога Шляху“.

М. Танк прайшоў адзін раз этапам ад Нарачы да Вільні за вершы, знойдзеныя на Лукішках пасьля ягонага там пабыту. На Акружным Судзе ў Вільні і затым на Апэляцыйным поэт — зусім малады юнак — сам бароніцца ў абедзьвюх інстанцыях. Суд першы і другі раз апраўдаў поэта. Але-ж вандроўкі па этапах і вастрогах яшчэ да Суда асаблівай прыемнасьці ня спраўляюць. Крытыка-ж „Не-старага“ з „Роднага Краю“ зноў кіравала справу на гэты этапны шлях, вось чаму Танк быў змушаны так востра адказаць па [illegible]

На такі самы паліцэйскі шлях скіраваў сваю палеміку з Танкам і „Шлях Моладзі“. Толькі выказаў яшчэ большую шчырасьць, як Нестары з „Роднага Краю“, бо адразу загаварыў аб партыйнасьці, клясавасьці, праграмах і нават пусьціў набожную сьлязу над нягодным хрысьціянінам і добрым камуністым. Пасьля некалькіх нумароў радыкальнага дэмакратызму „Шлях Моладзі“ зноў выявіў сваё консэрватыўнае аблічча, сваю вузкую партыйнасьць і нават прызнаўся, што палянафільскі „Родны Край“ бліжэй яму, чымся талент маладога беларускага поэта.

Можна згадзіцца, што з фармальнага боку „Досыць бездарожжа“ напісана залішне востра, але па самай сутнасьці слушнасьць поўнасьцю па старане М. Танка. Поэт заўсёды павінен мець чуткасьць да ўсякай грамадзкай несправядлівасьці, створанай сільнымі проці слабых. Па нашаму пры арганізацыі ТБА — аднаго з аб'екта Машараўскага „Падарожжа“, — у аснову было паложана не дабро Беларускага Народу, а тое, што на жаргоне абшарніцкага „Слова“ называецца — asymilacja, або больш далікатна польска-беларускі утраквізм, які прыводзіць да тых самых вынікау. ТБА — гэта адзін з тых шматлікіх спосабаў, якімі вядзецца барацьба з нацыянальнай культурна-асьветнай працай беларускіх арганізацыяў, як Т-ва Бел. Школы і Бел. І. Г. і К-ры. Ці-ж выпадае пасьля гэтага старэйшаму з беларускіх поэтаў складаць оды на чэсьць такой арганізацыі? Ці да твары „Шляху Моладзі“ змушаць М. Машару шукаць чалавека-беларуса толькі на санацыйным, або старо-хадэцкім панадворку? Ня трэба забываць, што ўкосна і для ТБА быў вынесены прыговор грамадзкім судом чэсьці ў справах, зьвязаных з „конфідэндыянальнымі“ сумамі, а БХД сама памёрла, як толькі скінула сваю старую рэакцыйна-клерыкальную вопратку.

Многія з нас узгадаваліся на творчасьці польскіх поэтаў і літэратараў, і таму добра ведаюць, што Сенкевіч, Сыракомля, Ожэшкова і наогул ні адзін з польскіх літэратаў і поэтаў не складаў одаў на чэсьць арганізацыі, створанай чужымі рукамі. Наадварот у польскай літэратуры мы знаходзім гымны славы сваім змагаром проці гвалту і няволі. Польская літэратура з чэсьцю пранясла ідэю нацыянальнай свабоды праз вякі няволі. Чаму гэта мы беларусы павінны рабіць наадварот.

Мы тут ня маем замеру бліжэй падыходзіць да творчасьці Міхася Машары, ад якога ніхто не адбярэ поэтыцкага таленту. Мы зьвяртаем увагу на грамадзкую вартасьць толькі ягонага „Падарожжа“ і адкрыта кажам — гэта пустацьвет у беларускай поэзыі з боку масгацкага і шкодная рэч з боку грамадзкага. Незалежнасьць народная прыходзіць у цяжкай працы і барацьбе і вымагае сільнай волі і ахвярнасьці. Седзячы на канапе і любуючысь конікамі Пагоні „работы жонкі Найдзюковай“ незалежнасьці недачакаемся ніколі.

Нам, здаецца, што „Шлях Моладзі“ сваім выступленьнем зрабіў якраз для Машары мядзьведзяў „услугу“. Праўда, прычынілася да гэтага ў значнай меры і рэдакцыя „Калосься“, якая ў першым сваім складзе гэты нефортунны твор адкінула, так як адкінула у сваім часе і „Маладая Беларусь“. Але новаму складу рэдакцыйнай калегіі „Колосьсяў“ спатрэбілася пускаць у друк „Падарожжа“ і тымсамым толькі шкодзіць сымпатычнаму поэту, які фактычна зьяўляецца ахвярай санацыйных і старa-хадэцкіх віленскіх „стосункув“.

Цяпер вярнемся да так званай партыйнай вузасьці М. Танка. На пачатку мы сьведама пералічалі часапісы розных кірункаў, дзе супрацоўнічае М. Танк. Кожны з гэтых часапісаў з прыемнасьцю зьмяшчае яго творы. Поэты, якія трымаюцца партыйных панадворкаў, ніколі ня выходзяць, ну хоць-бы для прыкладаў, з вузенькіх рамак „Шляху Моладзі“. Акалі да гэтага дадаць, што пад час суду за вершы наагул ніхто бліжэй не зацікавіўся маладым поэтам і „Шлях Моладзі“, якому гэтая справа, павінна быць асабліва блізкай, не падаў тады нават хронікарскай зацемкі, — то ад гэтага якраз увыпукляецца толькі вузкая партыйнасьць самога „Шляху Моладзі“ і злосная шкадлівасьць ад такіх ягоных палемічных выступленьняў.

В - ІЧ.

# На новы шлях

У папярэднім нумары „Нашай Волі“ малады беларускі пясьняр, Максім Танк, закрануў найбалючэйшае і найважнейшае пытаньне беларускага літэратурнага жыцьця — справу арганізацыі Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў. Гэта справа, сапраўды, вялікае меры.

Ужо васемнаццаць гадоў ходзіць беларускі літэрат без арганізацыі, якая-б яго зрабіла не аб'ектам розных варожых беларускаму вызвольнаму руху спэкуляцыяў, а ператварыла-б яго ў арганізаваны суб'ект, які ў гісторы, вызвольнага змаганьня заняў-бы, напэўна, адно з першых мейсцаў. Робіцца зусім нязручна адказываць на пытаньне: Чаму да гэтага часу яшчэ не паўстаў літэратурны Саюз? Селянін і работнік і то знаходзяць выхад для свайго арганізаванага жыцьця. Праўда, амаль усе беларускія літэраты належаць да беларускіх культурна-прасьветных і палітычных арганізацыяў. Гэта сьведчыць аб іх высокай ідэйнасьці. Але гэта яшчэ ня ўсё. З'арганізаваньнем літэратурнага Саюзу беларускі літэрат падвоіў-бы сваю працу ў той арганізацыі, у якой ён працуе, бо Саюз быў-бы ягонай стойкай апорай перад рознымі ўдарамі ў абставінах нашага сяньняшняга жыцьця. Вось чаму закранутае Максімам Танкам пытаньне набірае вялікай і нештодзеннай вагі.

Прыступіць да ажыцяўленьня Саюзу трэба абдумаўшы ўсебакова і абгаварыўшы. Дзеля гэтага ёсьць вельмі пажаданым, каб кожны з беларускіх літэратараў высказаўся на гэту тэму на бачынах беларускіх часапісаў. А тагды ўжо можна будзе прыступаць да арганізацыйнае працы. І тагды перамога над перашкодамі, напэўна, будзе лягчэйшай, бо будзе дамагацца ўжо цэлая грамада людзеў, для якіх гэта справа будзе неабходнай.

Новая літэратурная арганізацыя ўсёж-такі паслужыць красачкай да праяваў жыцьця ў Вільні. Варажыць цяжка, але дамагацца трэба.

*Франук Грышкевіч.*

# З УСЯГО СЬВЕТУ

— Галоўная Рада ангельскіх прафсаюзаў выдала адозву, у якой заклікае да падтрыманьня гішпанскіх работнікаў ў барацьбе за дэмакратыю. Адначасна адчынены збор на іх карысьць ахвяраю ў 1000 фунт. стэрлінгаў (35 т. злот).

— У Бургосе ўтварыўся з гэнэралаў і палкоўнікаў дачасны Урад гішпанскіх паўстанцаў на чале з ген, Кабанэллясам.

— Ўрад Злуч. Штатаў Паўн. Амэрыкі не прызнаў бургоскага ўраду гішпанскіх паўстанцаў.

— „Кур'ер Варшаўскі“ падае тэкст дэклярацыі гішпанскага „вялікага патрыёта“ гэн. Франко, які кажа: 1) што мае яшчэ шансы ўсьміраць рэспубліканскі ўрад Гішпаніі, 2) што калі-б паўстаньне яму не ўдалося, дык не затрымаецца, каб выклікаць міжнародны канфлікт з самымі страшэннымі пасьледствамі і 3) што, каб асягнуць сваю мэту, гатоў расстраляць палову гішпанскага народу.

— Мэксіканскі ўрад ня прызнаў звальненьня фашыстоўскім бургоскім „урадам“ сучаснага гішпанскага пасла і вызначэньня новага. Міністр Загр. Спраў Гай заявіў прадстаўнікам прэсы, што ягоны ўрад прызнае толькі законны ўрад Гішпаніі, які зацьверджаны прэзыдэнтам Азанаю, і не дапусьціць на тэрыторыі Мэксыкі інтрыгаў супроць законнага ўраду прыяцельскай дзяржавы. Адначасна мін. Гай падчыркнуў свае сымпатыі да ўраду, абапёртага на „Народны Фронт“.

— Эгіпецкі парлямэнт прыняў аднагалосна ўставу аб палітычнай амністыі. Адумысная ангельска-эгіпецкая камісыя разглядзела справу ўступленьня Эгіпту ў Лігу Нацыяў. Прапазыку аб гэтым будзе падтрымліваць Англія.

# Па Навайградчыне

Пачалося гэта, як і ўсё пачынаецца ў нашы часы, — з газэт. Перш напісалі, што дня такога мае выехаць у Навагрaдчыну „выцечка“ беларускіх студэнтаў. Ведама, рэч неблагая!

Перадусім наша інтэлігенцыя трохі зазнаёміцца з вёскай, з народам, а народ таксама пачуе хоць пару слоў ад людзей, якія лічаць сябе пупам усей нацыі.

Ад першай станцыі і пачалася куцерма! Перш праз дарогу пераляцеў чорны кот, посьля паліцыянт з нумарком, посьля цёмны тып у капялюшы. Ну, зразумела, тут ужо ўсе дагадаліся, што нешта будзе ня так, як трэба.

Запрасілі чалавек з 15 усіх у нейкі двор і пачаў нейкі ў капялюшы пытаць аб здароў'і нашых бацькоў, як зваць, прозьвішчы і дзе яны жывуць. Што занатавалі жывых, дык гэта зразумела. Мо' каторы не пазакону думае, ці мо' напісаў школьную дэклярацыю (бацькі народ пераважна мала пісьменны), але ў некаторых запісалі і нябошчыкаў!

Ідзём далей. Лес: вольха, бяроза, зімой галалёдзіца, як мядзьведзь прайшла па лесе, лес паломаны. пагнуты. Сьвітазь. Каля берагу шмат народу: салдаты, вясковыя, мы, паліцыя. Возера—круглае, як міска з зеленаватай вадой. калышцца трысьцё, плываюць скарынкі, папяросныя акуркі, бутэлькі.

Настрой у ўсіх высокі, патрыятычны.

Адзін пяе „Люблю свой край“, закусваючы вандзонай кілбасой, другі падцягвае „старонку гэту“ адразаючы кавалак кумпяка.

Вечарам на сене разгараюцца дыскусыі на тэму: „што такое масы і правадыры“. але так, „як палітыка“ ўсім збрыдла, пачынаецца спрэчка за мейсца на сене, або дыскусыя: „што заўтра есьці: бліны, ці яечню“.

— Я думаў, што беларускія студэнты, — кажа селянін з вёскі Н,—што небудзь нам раскажуць. парадзяць. Вось у нас яшчэ школы сваёй няма...

— Рэдка калі да нас завітае газэта, — гавора малады хлапец, стозчы пад пуняй.

З ім гаворыць адзін, найбольш трое з усей выцечкі. Рэшта ўспамінае, як у мінулым годзе на Нарачы знайшлі здохлага зайца.

— Мы яго на беразе пахавалі — чуецца голас на сене.

— Павялі ў Бярозу нашых: Янку, Мацея — гавора вясковы хлопец. — А як там зьезд Т.Б.Ш.? Паслалі мы аднаго чалавека на школьныя дэкларацыі...

З сене чуваць вясёлы сьмех які на мінуту глуша усё, ды пасьля зноў чуецца голас вясковага хлапца аб сваім жыцьці і аб жыцьці сваей вёскі...

Сьпіць, ляжыць зямля чорная як партфель сэквэстратара, а над ей, як шапка паліцыянта, цёмна сіняя ноч.

— Мне здаецца няварта рабіць такія выцечкі як гэта—гавора адзін з калегаў. Пупы запаліваць на сонцы, сяньня часы не такія. Поўна работы. Ды і адгарадзіліся мы зусім ад людзей, ад вёскі, праўда што і абставіны не спрыяючыя, але ўсё-жткі хочучы, нешта можна зрабіць,

Затрымаліся ў аднэй вёсцы напіцца вады. Пачала старэнькая бабка расказваць сівейшаю за яе легэнду пра возера Кромань.

— Вось яно так і паўстала,.. Правалілася яно, а на яго мейсцы возера...

— Гэтак, цётка гаворыць і аб Сьвітазі і ў пастаўскім павеце чуў я не пра адно возера падобную байку.

— Але ў нас гэтак было—гавора старая - у нас на благога чалавека гавораць: праваліся як Кромань... дык відаць што ўсё гэта праўда.

— А сколькі яшчэ будзе да Любчы?.. — Старая не перарываючы сваей думкі, калышучы на руках дзіця, пытае: а вы тутэйшыя?

— Не, аж з Вільні...

— Аж з Вільні!—ківае сівой галавой. — Час рабочы... Дык што-ж вы ходзіце па нашай старане і цешыціся? — Пытае гледзючы далёка за выган, там дзе Нёман пад вострым кутом, быццам прыпомніўшы, штось варочаецца назад. Вечарэе.

Тут цэлая эскурсыя — думаю даганяючы сваю грамаду, а тут старая кажа: „цешыцсся“ - хоць-бы сказала як інaчай, а то як памялом праехала ца ўсіх уражаньнях.

Каля дарогі калышуцца спаляныя сонцам нівы...

*Максім Танк,*

Вільня, 12-VIII-36

